*Ідзе падпіска на «Народную Волю» на кастрычнік і ўвесь чацвёрты квартал. Сябруем!*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**№ 72 (4427)**

13 верасня 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ПАЛІТКУХНЯ

## «Хоць нарэшце ўбачыў наш бел-чырвона-белы сцяг!»

Пазаўчора подпісы за вылучэнне кандыдатам у дэпутаты ў цэнтры горада збіралі сябры ініцыятыўных груп лідара пярвічнай арганізацыі Партыі БНФ Вадзіма Саранчукова і пенсіянера Мікалая Саляніка.

Значнай актыўнасці не назіралася, гучных дыскусій выбаршчыкі на вуліцы не праводзілі. Многія папросту праходзілі побач, праўда, частка людзей спынялася і цікавілася.

Першымі свае подпісы паставілі маладыя людзі – Таня і Сяргей. Яны студэнты, пацікавіліся, калі дакладна дзень галасавання, дасталі пашпарты і моўчкі падпісаліся.

«Пакуль рана нешта казаць, – заўважыла для «Народнай Волі» маладая дзяўчына. – Трэба, каб працэс пайшоў, каб выбары трохі ўзбадзёрылі наша грамадства».

Дзве жанчыны сярэдняга веку проста паставілі свае подпісы і пажадалі паспяховых выбараў як Саранчукову, так і Саляніку. А вось мужчына перадпенсіённага ўзросту, выслухаўшы Саранчукова, заўважыў, што ўсё роўна на выбары не пойдзе. «Але хоць нарэшце ўбачыў наш бел-чырвона-белы сцяг!».

Дасціпная жанчына задавала шмат пытанняў сябрам ініцыятыўнай групы, а потым урэшце згадала, што ў яе няма з сабою пашпарта і падпісацца не можа. «Але мяне ўсё ж цікавіць адно пытанне: куды дзяваюцца тыя дэпутаты, калі іх выберуць? Я спрабавала хоць да аднаго дабіцца, і ўсё безвынікова», – казала жанчына.

Відавочна, што больш ахвотна ставілі подпісы моладзь і людзі сярэдняга веку. Большасць з іх практычна не задавалі ніякіх пытанняў, нібы эканомячы час.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

УЧОРА

## Прызначаны!

**Цярэнцьеў Сяргей Леанідавіч** – Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Арабскай Рэспубліцы Егіпет і па сумяшчальніцтве ў Рэспубліцы Судан, Мултанаце Аман, Пастаянным прадстаўніком Рэспублікі Беларусь пры Лізе арабскіх дзяржаў;

**Вараб'ёў Яўген Сямёнавіч** – Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Дзяржаве Ізраіль;

**Аўсянка Мікалай Леанідавіч** – Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом у Рэспубліцы Эквадор і па сумяшчальніцтве ў Рэспубліцы Калумбія, Рэспубліцы Нікарагуа і Рэспубліцы Панама;

**Рыбак Віктар Васільевіч** – Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Турэцкай Рэспубліцы і па сумяшчальніцтве ў Рэспубліцы Ірак;

**Бяскосты Вячаслаў Васільевіч** – Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Туркменістане.

*Прэзідэнт таксама даў згоду на прызначэнне:*

**Гапоніка Анатоля Генрыкавіча** – старшынёй Буда-Кашалёўскага райвыканкама;

**Касінскага Сяргея Міхайлавіча** – старшынёй Лельчыцкага райвыканкама;

**Ложачніка Сяргея Васільевіча** – старшынёй Лідскага райвыканкама;

**Садоўскага Аляксея Валянцінавіча** – старшынёй Шчучынскага райвыканкама;

**Жайловіча Андрэя Леанідавіча** – старшынёй Салігорскага райвыканкама;

**Максімчыкава Пятра Аляксандравіча** – генеральным дырэктарам адкрытага акцыянернага таварыства «Гомельшкло»;

**Авакава Сяргея Мірзоевіча** – генеральным дырэктарам адкрытага акцыянернага таварыства «Планар».

АФІЦЫЙНА

**375**

*Урад устанавіў новы памер месячнай мінімальнай заработнай платы – 375 рублёў. Адпаведная пастанова Саўміна ўступае ў сілу з 1 студзеня 2020 года.*

**463**

*За першую палову 2019 года ў Беларусі асуджаны за карупцыю 463 чалавекі.*

СКАЗАНО!

### Леонид АНФИМОВ, председатель Комитета государственного контроля Республики Беларусь:

– На модернизацию цементных заводов государством затрачены колоссальные средства – более 1 миллиарда долларов, на сотни миллионов долларов была оказана государственная поддержка. Ожидаемой отдачи от этих средств пока нет.

ПАМЯТЬ

## В Нидерландах о них вспомнят, а у нас?

16 сентября исполняется 20 лет со дня насильственного исчезновения **Виктора Гончара** и **Анатолия Красовского**.

В этот день в Эйндховене (Нидерланды) пройдет церемония почтения памяти насильственно исчезнувших белорусов.

Церемония традиционно пройдет у живого мемориала «Четыре дерева». Четыре дерева были посажены в память о насильственно исчезнувших **Юрии Захаренко**, **Викторе Гончаре, Анатолии Красовском, Дмитрии Завадском** в 2008 году. В то время Эйндховен еще был городом-побратимом Минска.

Откроет церемонию дочь насильственно исчезнувшего Анатолия Красовского Валерия. С речью выступят **Кристи Мидема** («Международная амнистия»), **Арьен ван Халем** (Федерация нидерландских профсоюзов), **Мари-Энн Схреурс** (представитель городских властей Эйндховена). Поэты **Джессика Бартелс** и **Лео Месман** прочтут свои стихотворения, которые они написали специально к этой трагической дате.

Мероприятие организовано «Международной амнистией», Федерацией нидерландских профсоюзов и гражданской инициативой «Мы помним».

ПАЗІЦЫЯ

### Вольга ДАМАСКІНА:

## «Голас жанчын павінен быць пачуты!»

*Актывістка руху «За Свабоду» Вольга Дамаскіна, якая ў 2016 годзе праз удзел у парламенцкай кампаніі была звольнена з Музея традыцыйнага ручнога ткацтва Паазер'я, ізноў вылучаецца ў кандыдаты ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Яна ідзе па Наваполацкай выбарчай акрузе №24.*

– У першую чаргу я планую скарыстацца ўдзелам у гэтай выбарчай кампаніі дзеля таго, каб голас жанчын у нашым грамадстве нарэшце быў пачуты, – распавяла «Народнай Волі» Вольга Дамаскіна. – Мужчыны прымаюць законы, а нам па ім жыць! І таму мая ініцыятыўная група складаецца з жанчын.

Многія ў Наваполацку ўпэўнены, што перамога павінна быць за мной. Я, канешне, больш крытычна стаўлюся да гэтай кампаніі. І ўжо ведаю, хто будзе маім галоўным канкурэнтам – гэта дзеючы дэпутат Палаты прадстаўнікоў, які, між іншым, на мясцовым тэлебачанні ўжо фактычна распачаў актыўную агітацыйную кампанію, ён расказвае пра свае сустрэчы з выбаршчыкамі. Думаю, менавіта на яго робяць стаўку ўлады.

Шмат для каго ўсе выбары праходзяць незаўважна. Нас прывучылі да таго, што начальства і ўлада лепш ведаюць, як нам жыць, на што жыць і што нам трэба. Сёння вельмі складана данесці да тых, хто прымае рашэнні, сваё бачанне вырашэння праблем. Дэмакратычным арганізацыям няма доступу да тэлебачання, і людзі мала ведаюць пра іх. А ўсе вулічныя мерапрыемствы цяпер каштуюць вялікіх грошай. Нават збор подпісаў пад петыцыяй можа скончыцца штрафам. А для некаторых жыхароў Наваполацка подпіс пад калектыўным зваротам аб набярэжнай выклікаў пагрозы з боку супрацоўнікаў выканкама.

Час выбарчай кампаніі – гэта адзіная магчымасць скарыстацца тым, што за пікеты па зборы подпісаў не трэба нікому плаціць – ні пажарным, ні «хуткай дапамозе», ні міліцыі, ні службам ЖКГ.

Гэты час можна выкарыстаць для таго, каб данесці да ўлады нашы праблемы, сказаць пра тое, што хвалюе нас. Я хачу распавесці жыхарам нашага горада пра пазіцыю руху «За Свабоду» па важных пытаннях развіцця краіны. Паказаць, што ёсць альтэрнатыўны шлях развіцця.

**Марына КОКТЫШ.**

ТАМ, В РЕГИОНЕ

## Будет интрига?

На мандат депутата белорусского парламента в Солигорске будут претендовать два лидера профсоюзных организаций. Правда, один из них официально уже бывший.

Речь идет о председателе профсоюзной организации Белхимпрофсоюза ОАО «Беларуськалий» **Андрее Струневском** и бывшем руководителе Белорусского независимого профсоюза, хорошо известном международному профсоюзному движению **Николае Зимине**. Оба они подали заявления о регистрации инициативных групп избирателей по сбору подписей.

В апреле нынешнего года Николай Зимин сложил полномочия в БНП. На эту должность избран Максим Позняков. С недавнего времени Николай Зимин возглавил Солигорское отделение общественного объединения «Таварыства беларускай мовы». Учитывая его авторитет среди членов независимого профсоюза, известность у шахтеров и калийщиков, особенно старшего поколения, среди которых и пенсионеры, а также уважение, которым он пользуется у демократов города, можно спрогнозировать, что голосовать за него будут достаточно активно.

Андрей Струневский тоже пользуется авторитетом в своей большой профсоюзной организации и, похоже, устраивает многих в руководящем составе «Беларуськалия». В общем, предвыборное состязание этих двух претендентов в Палату представителей обещает внести в избирательную кампанию в Солигорске интригу и живинку.

Помимо них, заявления о регистрации инициативных групп по сбору подписей подали еще три жителя города. Среди них директор Дворца культуры, индивидуальный предприниматель, работник одного из обществ с ограниченной ответственностью.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

ПА ВАШАЙ ПРОСЬБЕ

*Чуў, што не так даўно на нейкім сайце было вялікае інтэрв'ю беларускага бізнесмена **Уладзіміра Дзялендзіка**. Ён, кажуць, настолькі шчыра і падрабязна адказаў на многія пытанні, што некаторыя яго калегі нават здзівіліся – у нас багатыя людзі не любяць адкрывацца, а тут…*

*Мне таксама хочацца азнаёміцца з выказваннямі спадара Дзялендзіка, але я, на жаль, не карыстаюся інтэрнэтам, а таму просьба да рэдакцыі «Народнай Волі»: надрукуйце, калі ласка, тое інтэрв'ю знакамітага бізнесмена, якое выклікала ў грамадскасці шырокі рэзананс.*

**Валерый Пятроўскі. Баранавічы.**

АСОБА

## «Аляксандр Рыгоравіч, не ідзі на аб'яднанне з Расіяй!»

### *Агнявое інтэрв'ю з уласнікам «Дарыды», мільянерам Уладзімірам Дзялендзікам*




За свае 66 гадоў беларускі бізнесмен Уладзімір Дзялендзік паспеў шмат: пабудаваць буйную кампанію «Дарыда», стварыць аднайменны футбольны клуб, два тэрміны адпрацаваць дэпутатам Палаты прадстаўнікоў… Нядаўна Дзялендзік з'явіўся ў СМІ праз сумную нагоду – ён на сваім «Ягуары» трапіў у ДТЗ, у якім загінула жанчына. Дзялендзік цалкам прызнаў віну, кампенсаваў усе выдаткі пацярпелым, і ў выніку суд амніставаў бізнесмена. Пра гэта і шмат пра што – у інтэрв'ю Уладзіміра Дзялендзіка.

Журналістаў ён прымае ў сваім працоўным кабінеце на «Дарыдзе». Апрануты вельмі сціпла – статус выдаюць хіба толькі масіўны гадзіннік і беласнежныя красоўкі «Louis Vuitton». Дарэчы, красоўкі і цішотка той жа маркі на Уладзю, унуку бізнесмена, які таксама прысутнічае ў кабінеце падчас гутаркі разам са сваімі бацькамі: Наталляй, дачкой Дзялендзіка, і яе мужам-каталонцам Адрыяна.

**Уладзімір Дзялендзік:** – З чаго пачнём размову? Эканоміка, бізнес, палітыка?

**– Пачнём, можа, з бізнесу? Вы казалі, што ўжо не дырэктар «Дарыды», што паўнамоцтвы ў вашай дачкі. Чым тады займаецеся цяпер?**

– Я не дырэктар, але я заснавальнік. Што такое «Дарыда»? Сёння мы экспартуем не толькі ў Літву, але і ў Іспанію. Будзеце ў Іспаніі, то ўбачыце ў гандлёвых сетках нашы напоі: у Барселоне, вакол Барселоны і амаль па ўсёй краіне.

І вось «Дарыда» паднімаецца, прыносіць карысць у першую чаргу Рэспубліцы Беларусь, ну і ў тым ліку свайму ўласніку.

Мая дачка – заснавальніца. Калі я быў дэпутатам, то не меў права карыстацца акцыямі. Але дачка жыве за мяжой (*у Іспаніі. – «**НН**»*). Адпаведна, хто тут сочыць за ўсім? Яе бацька.

Дачка замужам за іспанцам, яна займаецца прасоўваннем нашай прадукцыі на іспанскі рынак. І зяць дапамагае. Заходні рынак вельмі складаны, сёння беларускую прадукцыю там не знойдзеш. Але мы ў гэты рынак увайшлі, і ўвайшлі надоўга. Ужо там зарабляем.

[У Беларусі] ёсць прызначаны дырэктар. Я кансультую і займаюся развіццём бізнесу, бо развівае яго заўсёды ўласнік.

**– І якое апошняе важнае рашэнне вы прынялі?**

– Запусцілі новую марку вады. Я дапамагаю з прасоўваннем у Іспаніі. Далейшую сітуацыю пакіну без каментарыяў: у мяне шмат чаго ёсць, не толькі «Дарыда», але і іншыя бізнесы. Пра іх СМІ пакуль не ведаюць, ведаюць толькі дзяржорганы.

**– Адкрылі б таямніцу.**

– Не асабліва хачу каментаваць. Але, акрамя «Дарыды», ёсць яшчэ два бізнесы, і яны немалыя.

**– Але прыкладна – што гэта? Крыптавалюта?**

– Не, я займаюся толькі той эканомікай, якая дае працоўныя месцы людзям. Я скажу так: сфера паслуг. Ёсць і гандаль, невялікая сетка… І лагістычны цэнтр адкрыю буйны.

**– Сетка крам?**

– Астатняе пакінем за бортам. Далей хочаце – самі шукайце, хочаце – не. Але я вам сказаў чыстую крыштальную праўду.

**– Добра. Раскажыце тады, як прайсці шлях ад вясковага хлопца да ўласніка «Дарыды» і яшчэ некалькіх бізнесаў? Вы пачыналі з кінамеханіка салігорскага раённага перасоўнага кінатэатра. Сёння, напэўна, ніхто і не ведае, што гэта.**

– Хачу сказаць, што я пастаянна бываю на малой радзіме. Апошні раз быў месяцы два таму.

Няма там у мяне нічога і нікога, ужо нават сваякоў не засталося. Але я прыязджаю з настальгіяй. У нас добры вялікі аграгарадок Зажэвічы ў Салігорскім раёне. Амаль як горад: вуліца, на якой я калісьці жыў, даўжынёю 10 кіламетраў. А там дзесяць такіх вуліц!

Дык вось, што такое кінамеханік. На конях ці на грузавіку калгас вазіў па вёсках апаратуру. Я прыходзіў, расстаўляў і ўключаў апаратуру ў клубе. Ну і там ужо дзеці прыбягалі: хтосьці бясплатна заскочыць, сёе-тое… А я ж чалавек па жыцці добры.

**– Кінамеханік – гэта была «блатная» праца?**

– Гэта быў аўтарытэт. Вяскоўцы заказвалі, што прывезці. А прывозіў жа тое, што давалі. І пасля дамаўляешся, каб табе далі найхутчэй нейкі новы фільм, які нядаўна выйшаў.

**– Адпаведна і самі глядзелі. Што найбольш падабалася?**

– Я заўсёды любіў – і па сёння люблю – гістарычную ці ваенную тэматыку, палітычную…

Увогуле, маё вясковае дзяцінства было выдатнае: басаногж пабегаць па зямлі, паплаваць у рацэ… А пасля я ўжо паехаў у горад вучыцца, ажаніўся…

**– А чаму вы не засталіся ў вёсцы, а вырашылі з'ехаць?**

– Усе марылі ў горад выехаць. Каб я быў тупы чалавек, неадукаваны, то стаў бы механізатарам, а не стаў бы бізнесменам, дэпутатам… Але Бог даў мне розум ці нейкія іншыя якасці, ну і вось, сяджу тут, з вамі размаўляю.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

АСОБА

# «Аляксандр Рыгоравіч, не ідзі на аб'яднанне з Расіяй!»

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

**– То бок калі застаўся механізатарам – значыць, тупы?**

– Не тупы, але малаадукаваны чалавек. Не тупы, я выбачаюся за гэтую фразу. Я сказаў гэта пра сябе, пра людзей я не маю права казаць, што яны тупыя.

***

**– Дык а як пачынаўся бізнес?**

– Здарылася адна гісторыя – нікому не расказваў, упершыню вам раскажу.

Яшчэ да «Дарыды» з'явіўся ў мяне аўтамабіль.

Тады было прыватнае таксі, кааператыўнае. Толькі-толькі з'яўлялася. Я працаваў інжынерам у Інстытуце мікрабіялогіі і на таксі падпрацоўваў.

**– Але ж тады машына была рэдкасцю, прычым нятаннай.**

– На машыну пайшлі і мае грошы, і цешча дапамагла, і сям'я…

Карацей, стаю я каля вакзала, чакаю пасажыра. Ідзе адзін са скрынямі.

Пытаюся: «Куды ехаць?»

Ён адказвае: «Не ведаю, куды ехаць, куды адвязеш».

Кажу: ну сядай, будзем вырашаць.

Аказалася, гэты пасажыр вёз спіртамеры з Санкт-Пецярбурга. Гэта карысны прыбор быў, самагонку мераць, гарэлку, ніхто ж не ведаў, колькі дакладна градусаў.

Кажа: давай іх прадаваць з табой.

Кажу: ну давай.

Павёз яго на базар. І гэтыя спіртамеры ў нас разляцеліся з хуткасцю гуку. Адзін 5 рублёў каштаваў. За дзень мы іх напрадавалі столькі, што амаль хапіла б на «Жыгулі».

Частку грошай яму трэба было вярнуць у Пецярбург, але і мы зарабілі. Ну вось з такога бізнесу я і пачынаў.

Затым сабралася кампанія, выпускалі ўгнаенні, каб кветкі саджаць, агуркі. Але пасля ўсе паміж сабой перасварыліся… Ну і я пайшоў шукаць далей сабе хлеб, шукаць сабе бізнес.

А ў Беларусі была крытычная сітуацыя з продажам тэхнікі. Тады Дзялендзік – вось такі, якога вы бачыце, толькі малады – сеў і пакаціў шукаць, дзе ж прадаваць тую тэхніку. Дабраўся да Арэнбурга, там трапіў нават да губернатара Ялагіна… Пачаў прадаваць тэхніку на Расію. Адпраўлялі «МАЗы» на Расію, тут паркоўка была.

А побач санаторый «Крыніца». Там лячылі калісьці алкашоў ад гэтай справы. Пасля запояў мінеральная вада чысціць усе вантробы.

І я ведаў пра гэтую ваду. Прабурыў свідравіну, запусціў першы цэх.

З гэтага і пачала будавацца «Дарыда», я ў яе паціху ўкладваў грошы.

**– Сёння модны выраз «ліхія 90-я». Сапраўды былі ліхія для вас?**

– Ох (*уздыхае*)... Больш чым «ліхія», лепш іх не ўзгадваць.

Але ў мяне аховы ніколі не было. Ніколі! Хаця разборак было навалам.

**– Напрыклад?**

– Пра такога Шчаўліка чулі? Царства яму нябеснае, дзе ён там падзеўся, я не ведаю. (*Беларускі злодзей у законе Уладзімір Клешч па мянушцы «Шчаўлік» знік у снежні 1997 года.* – «**НН**».) У 90-х на Маякоўскага быў рэстаран, дзе групоўкі збіраліся. У Шчаўліка свая групоўка была, у іншых – іншыя…

І была такая гісторыя. Прыехалі на нашу стаянку людзі, збілі вартаўнікоў, забралі некалькі МАЗаў і прадалі кудысьці. Мы высветлілі, хто гэта. Нас тады можна было і саміх у турму саджаць, бо мы мелі газавыя пісталеты, дарэчы… Але мы знайшлі, хто нас абакраў, вярнулі сваё. І пасля сабралі сваю каманду і не давалі да нас лезці бандытам. Ну і абапіраліся трохі на сілавыя структуры.

**– Былі знаёмствы сярод сілавікоў?**

– Тады і сілавікі каму хочаш служылі… І сам не ведаў, як той казаў, якому богу служыць. І тыя, і тыя рабавалі, і белыя, і чырвоныя.

**– Ці былі выпадкі, каб вашаму жыццю пагражалі?**

– Не было такога. Я дыпламатычна разбіраўся.

**– Але ж газавы пісталет насілі.**

– Легальна! У мяне доўга быў пісталет, я яго пару гадоў таму здаў.

**– Кожны дзень насілі з сабой пісталет?**

– Тады, у 90-я? Так, кожны дзень.

**– Хоць раз прымянялі яго?**

– Ніводнага разу.

**– А адціснуць бізнес у вас не спрабавалі?**

– Адціснуць – не. Але ж «карміць» трэба было ўсіх навокал – вось гэта было.

**– Папулярная версія, што ў 90-я ўсіх крымінальных аўтарытэтаў дзяржава знішчыла фізічна. На вашу думку, гэта гарадская легенда ці праўда?**

– Я на 100 працэнтаў веру, што так магло быць. І трэба было б. Бо іх і сутыкалі лбамі паміж сабою, каб яны самі сябе знішчылі. І гэта правільная палітыка была. Шмат хто перайшоў у легальны бізнес, перагледзеўшы свае прынцыпы і погляды. З крымінальнікаў пацярпелі недальнабачныя людзі.

***

**– А як вы ўспрынялі развал СССР?**

– Я ставіўся да гэтай сітуацыі па-добраму. Бо мусіць быць усё ж самастойная беларуская дзяржаўнасць.

Я і сёння так лічу.

Стаю за дзяржаўнасць Рэспублікі Беларусь. І зараз публічна звярнуся да Аляксандра Рыгоравіча і прама скажу: «Аляксандр Рыгоравіч! Не здавайся! Не ідзі на адзіную валюту! Не ідзі на аб'яднанне з Расіяй, мы мусім жыць самастойна!»

Сёння яго *[Лукашэнку]* уся апазіцыя абароніць, калі толькі ён адстаіць свой гонар і годнасць і не аддасць дзяржаўнасць у нейкія рукі.

Вось давайце падумаем: што Пуціну перашкаджае проста сябраваць? Вось вы мне адкажыце: што перашкаджае? Што, трэба Савецкі Саюз стварыць ізноў? Што, трэба, каб мы ў складзе Расіі былі? Калі ласка ж, мы супрацоўнічаем, давайце жыць, працаваць, межы вашы мы абараняем, на адной мове размаўляем… Не было б і гэтай Украіны, калі б Пуцін не палез туды. Я супраць таго, каб лезці ў чужы агарод.

Вам ніхто такога, можа, не скажа, але я скажу смела і адкрыта: не трэба лезці ў чужы агарод! І Украіна была б мірная, калі б не… Гандлюй, хадзі ў госці адзін да аднаго, сустракайся…

Я за дзяржаву Беларусь стаю! Мы прывыклі ўжо да дзяржавы сваёй, любім яе і кожны кут у ёй ведаем. І свой рубель ведаем! І ён нам пасуе. Худа-бедна, бывала і горш… Але перажылі ж! Перажываем! Вось маё меркаванне.

**– Але чаму Расія ва Украіну палезла, а да нас не лезе? Бо Украіна радыкальна адвярнулася ад Расіі?**

– Бо ў нас разумны прэзідэнт! Ён вядзе правільную палітыку. Але ціск на яго каласальны! Калі б быў хто іншы, нават каб я такі Дзялендзік быў бы, то мог бы і зламацца! Гэта трэба, каб чалавек быў сур'ёзны і з сілай волі. Бо ціск ідзе. Яны чым нас шантажыруюць – эканамічна. Але перажывём, я вам кажу. Нават калі Расія нам паставіць 300 долараў за тысячу кубаметраў газу – ды пражывём мы!

Таму калі пойдзе такая сітуацыя, то трэба правесці рэвізію нашых прадпрыемстваў, заняцца энергіяй, каб не праядалі гэты газ без карысці. І выпускаць прадукцыю пад замову, не на склад выпускаць, а тое, што прадаецца.

А беспрацоўным дайце зямлю. Столькі зямлі ж! Дайце людзям, не бярыце падатак, хай вырошчваюць часнок, цыбулю. Хай яны на сябе працуюць.

**– Але атрымліваецца, што Беларусь мусіць выбіраць, з кім сябраваць: ці толькі з Еўропай, ці толькі з Расіяй? На двух крэслах жа не ўтрымаемся.**

– А мы і не сядзім на двух крэслах.

**– Больш сядзім на расійскім?**

– Не! Прэзідэнт займае такую пазіцыю сёння, бо расіяне для нас – блізкія людзі. І прэзідэнт наш пераконвае расійскую алігархію: давайце нармальна, чаму вы нас шантажыруеце газам, чаму малако не хочаце браць, мяса? Тым больш што мы Еўразійскі саюз стварылі.

Прэзідэнт вядзе дыялог. А за спінаю Пуціна сядзяць людзі, якія не хочуць гэтага, а хочуць праглынуць усё, што можна.

**– А Еўразійскі саюз – гэта правільны крок?**

– Ну, гледзячы на першапачатковыя дамоўленасці, калі ўсе роўныя, то, канечне, гандлюй свабодна.

Але сёння ідзе палітычная гульня – зламаць Беларусь у склад Савецкага Саюза ці Расіі. Расія хоча падмяць пад сябе Беларусь цалкам. Дык мы абараняемся. Чаго вы хочаце? Давайце сябраваць.

Ніхто ж не перашкаджае расійскай уладзе весці дыялог. А яны: дайце адзіны рубель! Навошта? У нас свая валюта.

Еўропа вунь уся ваюе…

У мяне зяць каталонец – ён за Пучдэмона! Ён нацыяналіст! Ён за тое, каб аддзяліцца!

**Журналіст звяртаецца да Адрыяна, зяця Дзялендзіка: – А чаму вы за незалежную Каталонію?**

**Адрыяна:** – Эканамічны фактар. Каталонія будзе больш паспяховай асобна ад Іспаніі. Не хутка, не адразу, але праз 7–8 гадоў будзе нашмат лепш, чым сёння.

**– Наколькі рэальна атрымаць незалежнасць каталонцам?**

**Адрыяна:** – Пакуль нерэальна. Але ў будучыні будзе, раней ці пазней.

**Уладзімір Дзялендзік:** – А навошта нам Расія? Навошта? Я ведаю, што сёння ўсе цалкам падтрымліваюць прэзідэнта і абарону суверэнітэту.

***

**– Працягнем пра палітыку. Вы былы дэпутат парламента. Чаму сёння не ідзяце [на выбары]?**

– Я надта прамы чалавек. Дэпутату трэба быць гнуткім.

Напрыклад, я казаў тады і сёння кажу: калі адменяць прыгоннае права для чыноўнікаў, артыкул Крымінальнага кодэкса пра перавышэнне паўнамоцтваў? Пакуль яго не адменяць ці не зробяць больш мяккім, чыноўнікі будуць ціха сядзець, бо нельга ж крок налева ці направа зрабіць. Памідорка гніе, ён яе не можа прадаць! Бо паставяць «перавысіў паўнамоцтвы» – і ўсё, ідзі ў каталажку.

І выступаю, каб чыноўнікам далі волю. Крадзе? Хабар бярэ? Тады так, саджайце ў турму, з гэтым трэба змагацца.

**– А калі саджаюць, як вы кажаце, у каталажку, а пасля праз паўгода выпускаюць і адпраўляюць калгасам кіраваць?**

– Ну, гэта я не буду каментаваць, не надта дасведчаны. Але дактароў, асабліва добрых спецыялістаў, трэба выпускаць праз нейкі час. Добрых дактароў трымаць за кратамі – гэта, можа, і злачынства. Не ўсіх, але хаця б найлепшых варта памілаваць.

**– Калі зайшла гутарка пра крымінал: а звышжорсткія тэрміны за наркотыкі?**

– За наркотыкі трэба сур'ёзна караць. Ёсць і правакацыі, напэўна, трэба глыбока разбірацца. Але тых, хто прадае, трэба караць па поўнай праграме.

**– Караць – маеце на ўвазе найвышэйшую меру?**

– Не, маю на ўвазе саджаць. Я лічу, што смяротнае пакаранне трэба адмяніць. Хай чалавек жыве і выкупляе свае дзеянні.

**– Вернемся да вашай працы ў парламенце. У старым інтэрв'ю вы казалі, што вам дэпутацтва не прыносіла задавальнення.**

– Спачатку прыносіла, пасля – не.

**– А навошта ж вы туды пайшлі?**

– Каб змяніць сістэму. Але для гэтага трэба ствараць кааліцыі. Інакш не прасунуць нічога. Але калі не думаючы людзі галасуюць, то не зменіш нічога. Трэба ісці з канструктыўнымі прапановамі. Не ісці, як некаторыя: «Вось Лукашэнка там чорт яго ведае што!» Дык а Лукашэнка ж хоць пабудаваў палацы, ператварыў гарады, худа-бедна, але зрабіў Беларусь унікальнай, зрабіў еўрапейскай краінай.

Ці не? Можа, вы, апазіцыянеры, і інакш лічыце. А я думаю, што ён унёс лепту…

Вось мне не трэба яму дупу лізаць. Я на пасаду не прэтэндую. Таму я кажу, як яно ёсць!

А калі недзе і пабудавалі паказушны гарадок, які развальваецца, то гэта ж не ён пабудаваў. А хтосьці пабудаваў, каб выслужыцца.

Правільна вы пішаце: нельга прэзідэнту хадзіць каровам хвасты падвязваць… Дык а хто? Хто, акрамя яго?

Хто ж будзе кіраваць? Той, хто думае, як грошай скрасці? Дык правільна ён [*Лукашэнка*] іх!

**– Але што за сістэма, калі без прэзідэнта не могуць гаўно з-пад каровы прыбраць?**

– А шмат сёння адбярэш разумных высокаразвітых людзей?

Я вам скажу як кіраўнік «Дарыды»: шукаў памочніка, дай Бог, каб з сотні можна было аднаго нармальнага выбраць!

Трэба, відаць, як у бальшавікоў раней было: вырошчваць спецыяліста паступова, па ступенях навучання. А ў нас няма гэтай школы.

Стварылі Акадэмію пры прэзідэнце. Прэзідэнт грукаў кулаком, дзірку ў стале прабіваў: стварыце нармальную акадэмію! Але што, ён сам там будзе сядзець, кіраваць ёю?

Няма на каго абаперціся! Менталітэт людзей у нас яшчэ такі: прынясе хтосьці на талерцы. Таму яму [*Лукашэнку*] і прыходзіцца паўсюль запрагацца!

Гэта персанальна маё меркаванне. Я не падлізваю нікому!

**– Падчас працы ў парламенце вы ўсё ж дамагліся нейкіх перамен, якіх хацелі?**

– Я выступаў супраць выплат у канвертах, дзяржава пачула. Таксама я настойваў, каб праводзілася аналітыка – бо закон ствараецца, а падзаконныя акты ці іншыя законы яму супярэчаць. А гэта ж і стварае карупцыю!

**– Зараз жа якраз ідзе хваля барацьбы з карупцыянерамі. А што трэба, каб карупцыі не было? Заробкі падняць чыноўнікам?**

– Канечне, заробкі! Але пакуль заканадаўчая база буксуе, гэта і схіляе чалавека, спакушае яго.

Толькі заробкі – мала, трэба заканадаўчую базу мяняць.

І трэба, каб у чыноўніка пенсія была вялікая. Калі ён будзе ведаць, што яго чакае пенсія тысяча ці паўтары долараў, то будзе думаць: на фіг мне гэтыя сто долараў хабару, я ж згублю пенсію, згублю ўсё!

**– Як былы парламентарый як вы ацэньваеце спрэчныя законы, якія прынялі сённяшнія дэпутаты? Дэкрэт супраць дармаедаў, напрыклад?**

– Абсурд.

Бо не трэба трымаць на заводах лішніх людзей. Трэба выпускаць столькі, колькі можам прадаць, я ж ужо казаў. Гэта ж уплывае і на кошт прадукту: бо трэба ж усім работнікам хоць трохі заплаціць – адпаведна, тавар прадаецца даражэй.

Абсурд. Гэты закон трэба адмяніць і забыць, яго катэгарычна нельга прымяняць.

Я не ведаю, хто прыдумаў гэты закон – Шчоткіна ці хто. Але гэта аплявуха прэзідэнту, гэта раздражняе толькі людзей супраць прэзідэнта.

Нават калі беларус працуе за мяжой, грошы ён вязе сюды! Я быў у Кітаі, там кажуць так: «Дзе б кітаец ні працаваў, карысць ён нясе толькі сваёй дзяржаве».

Ну а калі не працуе, то і хай не працуе. Хай сядзіць!

**– Другі закон – нядаўні, пра адтэрміноўкі ад арміі падчас вучобы.**

– Можа, на мяне ўлады пакрыўдзяцца, але скараціць сілавыя і ўзброеныя структуры трэба. У нас моладзь і так малаадукаваная…

Але два разы адтэрміноўку даваць – я супраць. Калі ён увесь час вучыцца: то так, то завочна… Я супраць. Войска патрэбна.

**– А вы самі служылі?**

– Я не служыў. Па стане здароўя.

**– Вы не служылі, але лічыце, што служыць хлопцы павінны.**

– Так.

**– Абавязкова?**

– Абавязкова.

**– На паўтара года. Васямнаццацігадовага хлопца.**

– Як вы ні кажыце, трэба, каб навучанне ён прайшоў, каб дысцыпліна была, каб не ламалі вокны і дзверы і гэтак далей. Дысцыпліна трэба, каб была, так ці не?

І ў любой краіне існуюць сілавыя структуры, паўсюль, гэта стабільна трэба.

А вы мне, напэўна, хочаце прапанаваць кантрактнае войска? Дык краіна яшчэ не гатова. Вернемся да палітыкі. Нас не адпускае Расія, вы ж бачыце, цісне і цісне рознымі метадамі.

Калі б Расія не ціснула, можа, мы калі-небудзь і перайшлі б на кантрактнае войска. Але ёсць палітычныя інтрыгі, якія граюць вялікую ролю.

Паглядзіце на Украіну – там ідзе нагнятанне. А іх бандэраўцы і нацыяналістычныя групоўкі могуць уварвацца куды хочаш.

А незадаволеныя прэзідэнтам, калі яны сюды зброю ўцягнуць і так зробяць, што мы тут разню зладзім паміж сабой? Вось такога і трэба баяцца.

**– Украіна там сама з сабою не можа разабрацца. Але пра ціск Расіі: вы лічыце, што нашы салдаты тэрміновай службы, якія па паўгода траву фарбуюць…**

– Ды якая розніца?! Усё роўна Пуцін пабаіцца!

Ён можа Кіеў заняць за хвіліну, але ж вы разумееце, чым скончыцца, калі народ супраць. Яны з Чачнёй не маглі справіцца.

Ды і калі б штосьці здарылася, то на Пуціна ўвесь свет бы ашчэрыўся, а нас абаранялі б Літва, Польшча і далі б і нафту, і газ. Суседзі дапамогуць, упэўнена кажу.

Ніхто не хоча, каб мы ішлі ў залежнасць.

***

**– Вы казалі ў старым інтэрв'ю: «Я з асалодай размаўляю на беларускай мове, я паляшук». Чаму ў нас беларуская мова ў заняпадзе?**

– Я сам ужо прывык на трасянцы, таму размаўляю як размаўляю. Але за мову беларускую я стаю грудзьмі, разарваў бы кашулю! Увесь народ заклікаю праз ваша выданне: давайце беларускасць любіць! Заклікаю беларусаў на мове размаўляць, каб беларусамі шчырымі былі!

Пакуль людзі саромеюцца. У нас жа 70 гадоў забівалі беларускую мову – ЦК КПСС і Савецкі Саюз. Але моладзь сёння паступова пераходзіць. З часам сітуацыя выправіцца, я на 200 працэнтаў упэўнены.

Калі, канечне, мы пад Расію не пяройдзем. Тады, канечне, русакі будуць нам казаць: чаго гэта вы, лапатнікі, будзе гаварыць на беларускай мове? Але я не думаю, што Рыгоравіч здасца.

***

**– Як вы ацэньваеце свой фінансавы стан?**

– У мяне за мяжой капіталу няма. Мае нашчадкі атрымліваюць на жыццё нармальна, але харомаў там не маюць. Здымаюць дом, бо сям'я вялікая.

У мяне ёсць сябры-мільярдэры. Дык яны жывуць гэтак жа, як і я. Яны лятаюць на сваіх самалётах, я лятаю бізнес-класам. Але якая розніца?

**– Але ж вы мультымільянер, можна так сказаць?**

– Можна так.

**– Гаворка ідзе пра дзясяткі мільёнаў долараў?**

– Калі ацаніць, то, канечне, дзясяткі мільёнаў. «Дарыда» сёння каштуе да 50 мільёнаў еўра.

**– Была нейкая рэч, на якую ну вельмі шмат патрацілі?**

– Я шмат выдаткаваў на футбол. *(Дзялендзік – стваральнік і ўласнік футбольнага клуба «Дарыда». Сёння каманды ўжо не існуе.* – «**НН**».) Стадыён пабудаваў, яго, праўда, развалілі.

І сёння я падтрымліваю. «Дынама» і яшчэ адну каманду паю вадою. Падтрымліваю дзіцячы дом. Дапамагаю і бедным. На той свет усё не забярэш.

**– Вы сябе лічыце беларускім алігархам?**

– Не. Я іх усіх ведаю, я з імі ў нармальных адносінах. Але я – сялянскі мужык.

**– А хто тады алігарх? Шакуцін? Чыж?**

– Ды кіньце вы! Яны голыя ходзяць! Хто перакрэдытаваны, хто залез у каласальныя грошы…

Ёсць людзі багатыя і без крэдытаў, без дзяржпадтрымкі… Рэальныя людзі, якія правільна паставілі бізнес, правільна працуюць. Можа, і не алігархі, але багатыя людзі.

Але я не буду іх называць.

А Юра Чыж ужо штаны ледзьве носіць. Не крыўдзіце яго, яго і так шмат мусіруюць… А ён і так, бедны, напакутаваўся.

**– Ну не дзіўна, калі яго сапраўды затрымалі падчас уцёкаў у бок літоўскай мяжы.**

– Да ладна, бог з ім. Яны ўсе самі сабе разбамбілі бізнесы.

**– А сёння ў Беларусі ёсць сярэдні клас?**

– Няма. Усе сярэдні клас, прымітыўна кажучы. Багатых – ну, можа, адзін працэнт.

А зусім бедных ці такога сярэдняга класа… Няма.

**– Гэта плюс ці мінус?**

– Гэта дрэннавата.

**– А што зрабіць, каб сярэдні клас з'явіўся?**

– Я ж казаў. Патрэбна рэвізія эканомікі, трэба даказаць патрэбнасць такой рэвізіі прэзідэнту і ўсім.

***

**– Раней вы казалі, што з апазіцыйных палітыкаў вам ніхто не падабаецца. Штосьці змянілася сёння?**

– Я ведаю іх гнілую палітыку і як яны сябе паводзяць.

А сёння я і не ведаю нікога. Возьмем, ну, дэпутата Канапацкую. Ну які з яе канструктыўны апазіцыянер? Брахаць хадзіць? Гаўгаў-гаў? Я супраць. Калі выступаеш, то напішы праграму, як хочаш змяніць краіну: што зробіш, дзе прыцягнеш інвестыцыі. А «гаў-гаўгаў, давайце выбары памяняем»… Ну прыйдзе час, раней ці пазней, калі стабільна будзе. У нас сёння праблема ж з Расіяй. Як сёння аддаць [*уладу*], што будзе? Як ва Украіне будзе.

А хто прыйшоў да ўлады ва Украіне? Яўрэі! І яўрэі паміж сабой дзясяты год ілбамі стукаюцца, не могуць разарваць кармушку! І будуць працягваць!

Вось што добрага ва Украіне? Яўрэі ваююць! Прабачце за грубае слова.

**– А вы такі побытавы антысеміт, атрымліваецца.**

– Ну-у-у… Не ведаю, што паляціць у мой бок, калі апублікуеце мае словы. Але ж яўрэі насамрэч паміж сабою ваююць. Гэта ж не схавана.

Але я думаю, што нашы беларускія яўрэі на мяне не пакрыўдзяцца, таму што яны нармальныя ўсе яўрэі. Нашы разумна вядуць сваю палітыку, не лезуць.

**– А як вы ставіцеся да рэстарана «Паедзем, паядзім», дарэчы? Гэта той, што побач з Курапатамі.**

– Я лічу, што забаўляцца там не трэба. На могілках я музыку не ўключаў бы. А калі людзі хочуць паесці спакойна – то хай ядуць. Калі ў яго не баліць на могілках штосьці рабіць – то, лічу, так.

***

**– Ваша цытата з інтэрв'ю «Народнай Волі»: «Жанчыны ў нас пасля 40 за сабою не глядзяць…»**

– Гэта дакладна. Як хочацца, каб жанчыны за сабою глядзелі! Яны ж і на вёсках, і паўсюль свае торбы возьмуць, шапку нацягнуць і ідуць, і ты думаеш: елкі зялёныя, колькі ж табе гадоў?! А ёй толькі 40…

**– Але ж тое – бо не хапае грошай, а не таму, што няма жадання.**

– Ды не грошай! Усё адно жанчына мусіць надаваць сабе ўвагу, нават за капейкі! У нас такія шмоткі прыгожыя!..

Вось возьмем іспанскіх жанчын. Яны апранаюць шмоткі простыя, але прыгожанька. Маечку надзявае ці кофтачку і ідзе, ганарыцца. Дык і ў нас – надзень ты гэтую кофтачку прыгожа, чуб начашы расчоскай, і шмат табе не трэба! А нашы, каб бабуля, нават вусны не пафарбаваўшы: «Чаго ж ты да мяне прычапіўся? Мне ж ужо 40 гадоў! З мужчынамі не сплю!» Кепска гэта.

Жанчыны сябе рана ў старасць заганяюць. Гэта крый божа!

Гэта не ад беднасці, а ад культуры і адукацыі. Пра гэта трэба па радыё, па тэлевізары гаварыць…

**– З жанчынамі за 40 зразумела. А моладзь вам як?**

– Дэградуе моладзь. Я ж казаў, што немагчыма супрацоўніка знайсці. Асобу знайсці цяжка. Высокаадукаваных людзей знайсці праблематычна, статус адукацыі трэба ўзнімаць, перабудаваць універсітэты, каб і рэктары, і выкладчыкі былі сучасныя, адукаваныя. Трэба выходзіць на кантакт з Еўропай, пераймаць вопыт адусюль.

***

**– Раней вы не хацелі гаварыць на гэтую тэму. Можа, сёння ўжо прыспеў час? Хачу спытаць пра смерць сына. Гэта было забойства? Наркотыкі?**

– Я ж казаў, што за наркотыкі я саджаў бы на вялікія тэрміны.

Вось гэтая сітуацыя адбылася. Ён прыняў наркотык не той якасці.

**– Спайс?**

– Не. Тады яшчэ не было спайсаў.

Яму прадалі нейкі сурагат у горадзе, прыйшоў дадому, увечары прыняў… Раніцай знайшлі ў ложку.

Ён перыядычна ўжываў, не пастаянна. Я вазіў яго, лячыў, але безвынікова.

**– Колькі было сыну?**

– 25 гадоў.

**– Прабачце за такое пытанне, але гэта здарылася ад таго, што было зашмат грошай? Залатая моладзь, усякае такое?**

– Яго ўцягнулі сябры. Ён сам расказваў, што прапаноўваў ім: давайце я вам лепш гарэлкі куплю! Але…

Ён часам саскокваў, бывала, год не калоўся. Затым ізноў…

**Наталля, дачка Уладзіміра Дзялендзіка:** – Час быў такі. Сёння гэтага не адбылося б. Тады быў час без кантролю.

– І ў мяне як у бацькі не было часу пракантраляваць. Калі я даведаўся, ужо цяжка было выводзіць яго з крызісу.

І Вяснянка тады быў такі раён, куды ўвесь зброд з'ехаўся. Так атрымалася… І сябры, якія яго і ўцягвалі, даўным-даўно ляжаць на могілках.

***

**– Пра ДТЗ з вашым удзелам ужо шмат пісалі. У выніку вы трапілі пад амністыю – але перад прысудам ці было вам страшна?**

– Не тое каб страшна… За тое злачынства не думаю, што мяне у клетку пасадзілі б. Заслуг у мяне хапае, ну далі б мне тры гады з адтэрміноўкай, ці чатыры, ці колькі… Больш нічога мне не было б. Але дарагое ж іншае.

На душы і тады, і сёння – я чалавека загубіў. Гэта самы цяжкі боль. Я ж адразу ўзяў віну – пасля, калі я крымінальную справу падпісваў, нават не стаў чытаць. Ні свае паказанні не перачытваў, ні чужыя.

**– А чаго ўвогуле баіцеся? Ёсць штосьці?**

– Канечне.

**– Чаго?**

– Не буду агучваць… Ды не, смерці не баюся. Прыйдзе час – і прыйдзе. Галоўнае, канечне, каб не ляжаць і каб не даглядалі мяне. Для такога энергічнага чалавека, як я, гэта непрымальна… А чаго баюся – тое хай са мною застаецца.

**Улад ШВЯДОВІЧ.**

**Фота Надзеі БУЖАН.**

**(nn.by)**

Народная Воля http://www.nv-online.info
13 ВЕРАСНЯ 2019 г.

БЛІЦ

# Ці трэба абмяжоўваць у Мінску хуткасць руху аўтатранспартных сродкаў да 50 кіламетраў у гадзіну?

### Юрый ЗІСЕР, бізнесмен, мецэнат:

– Я не згодны. Я вадзіў машыны ў 17 краінах свету, у Мінску езджу за рулём амаль штодня і за 23 гады нямала пабачыў. Дык вось мне гэтая скрадзеная на Захадзе ідэя зусім не падабаецца. Не ва ўсім трэба капіраваць Еўропу. Там вузкія вулачкі, і агульнае абмежаванне 50 км/гадзіну ў населеных пунктах цалкам апраўдана. Ёсць нават зоны, дзе пазначана 30, – у цэнтрах маленькіх гарадоў. Затое на буйных шматпалосных вуліцах звычайна стаяць знакі 70 і нават 80, як у нас раней было на праспектах Пераможцаў і Партызанскім, а на Незалежнасці ва Уруччы і цяпер 80. Ніякіх праблем гэта нікому не стварае.

### Армен САРДАРАЎ, архітэктар:

– Так, я згодны. І растлумачу чаму. Я лічу, што асноўная планіровачная сетка ў цэнтры горада (і не толькі ў яго гістарычнай частцы, а і ў забудове 1970–1980-х гадоў) не прыстасавана для такога інтэнсіўнага руху, які мы назіраем у Мінску сёння. Ён вырас у сотні, калі не ў тысячы, разоў! Ніякія нормы ўжо выканаць немагчыма. Таму трэба абмежаваць хуткасць руху транспартных сродкаў.

### Антон КУРГАНОВІЧ, бізнесмен:

– Некаторыя лічаць, што падобнае абмежаванне хуткасці паўплывае на загазаванасць нашага горада. Гэта не так! Газы ў асноўным выпрацоўваюцца не ад нізкай хуткасці, а ад разгону. У стабільным жа рэжыме руху розніца па выкідах паміж 60 і 50 кіламетрамі ў гадзіну будзе неістотная. Затое смяротнасць у ДТЗ, асабліва з пешаходамі, будзе ніжэй. Я лічу, што выратаваныя жыцці стаяць таго.

### Ірына АБАШЫНА, выкладчыца рускай мовы:

– Абмежаванне хуткасці ў цэнтры горада цалкам апраўдана. Але гэта не павінна тычыцца тых праспектаў, дзе ёсць чатыры паласы руху ў кожны бок. Навошта, напрыклад, на Дзяржынцы ехаць так павольна? Гэта будзе неапраўданым патрабаваннем. Да ўсяго трэба падыходзіць узважана, паўсюдна ў двухмільённым горадзе ўводзіць абмежаванне да 50 кіламетраў у гадзіну не варта. І потым, трэба даць нам, кіроўцам, перыяд на адаптацыю. Хай ДАІ спачатку на месяц-другі паставіць камеры і прааналізуе, што ў рэальнасці дае гораду такое абмежаванне хуткасці, а не будзе тут жа з радасцю штрафы стрыгчы на кожным кіламетры.

### Павел СЯРДЗЮК, протаіерэй:

– Я за абмежаванне хуткасці. Пры надзвычайнай сітуацыі на дарозе гэта дае значна больш шанцаў кіроўцу пазбегнуць трагедыі і захаваць сваю і чужыя жыцці.

### Надзея МЫШЭЛАВА, юрыст:

– Так, згодна, калі падыход будзе разумны. Таму што на некаторых вуліцах ехаць з хуткасцю 50 кіламетраў у гадзіну немагчыма. У большасці месцаў хуткасць руху транспарту можна і абмежаваць, але не ўсюды.

### Валерый ДЗМІТРАЧЭНКА, кінапрадзюсар:

– З маім вопытам і акуратнасцю любая хуткасць не праблема. Але мне для руху па горадзе 50 кіламетраў у гадзіну мала. Тым жа кіроўцам, хто адчувае сябе за рулём няўпэўнена ці любіць вар'яцкую язду, вядома, патрэбны строгія абмежаванні.

**Апытвала Алена МАЛОЧКА.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Андрэй КЛІМАЎ: «Я сваё ўжо адседзеў…»

*Былы бізнесмен і дэпутат Вярхоўнага Савета распавёў «Народнай Волі», чаму яго зараз не чуваць у публічнай палітычнай прасторы.*

У сярэдзіне 1990-х гадоў Андрэй Клімаў уваходзіў у пяцёрку самых вядомых беларускіх бізнесменаў. Узначальваў кампанію, якая займалася будаўніцтвам і выконвала буйныя дзяржаўныя заказы, меў банк і газету. Быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га склікання.

На 25 сакавіка 2005 года Андрэй Клімаў прызначыў у Беларусі рэвалюцыю, аднак акцыю пратэсту разагналі, а палітык апынуўся за кратамі. Апошнім часам пра яго амаль нічога не чуваць…



– Гэта і добра, што мяне не чуваць, – кажа мой суразмоўца. – Ёсць магчымасць новы тэрмін не атрымаць.

**– У сёлетняй парламенцкай кампаніі не ўдзельнічаеце?**

– Навошта? Я ўжо сваё адседзеў. Тым больш, як мне падаецца, асабліва нічога ў лепшы бок не змянілася.

**– Палітыка вам ужо не цікавая?**

– Палітыкай займаюцца людзі, якія знаходзяцца ў палітыцы – у парламенце, у выканаўчай уладзе. Хаця я, безумоўна, таксама цікаўлюся нейкімі палітычнымі падзеямі – уключаю камп'ютар і чытаю навіны. Але не больш за тое.

**– Прадстаўнікі апазіцыі вылучаюць свае кандыдатуры на парламенцкія выбары і не баяцца пераследу…**

– Я лічу, што той палітык, які вырашыў балатавацца ў дэпутаты, проста хлус. Таму што ён найперш падманвае свой электарат, дае яму беспадстаўную надзею, што выбарамі можна нешта выправіць у нашай краіне.

А нічога ўжо не выправіш. І справа не ў тым, што ў дэпутаты не бяруць людзей, якія маглі б нейкім чынам паўплываць на выканаўчую ўладу. На жаль, зараз пацвердзіліся мае горшыя апасенні, якія я выказваў з трыбуны Вярхоўнага Савета 13-га склікання ў дэбатах па ратыфікацыі Саюзнай дамовы з Расіяй. Ужо тады я разумеў, што Беларусь добраахвотна пазбаўляецца свайго суверэнітэту. І сёння мы не толькі эканамічна залежныя ад Расіі, а паралізаваныя. Вось такія сумныя думкі мяне наведваюць, калі я задаю сабе пытанне, ці могуць выбары на нешта паўплываць.

**– У 2005 годзе вы прызначылі на 25 сакавіка рэвалюцыю, але нічога не атрымалася. Як сёння ацэньваеце тое, да чаго заклікалі чатырнаццаць гадоў таму?**

– Нешта было зроблена, магчыма, не так, але я хачу нагадаць, што размова тады ішла не пра змену ўлады, а пра тое, што ўлада павінна прыслухоўвацца да меркавання народа. Што патрэбна змяняць саму структуру выканаўчай і заканадаўчай улады. Бо яшчэ тады Пуцін не быў імператарам Расіі, і такога ўплыву ў свеце ўсходні сусед не меў.

Вось што я хацеў данесці праз так званую рэвалюцыю. І ў мяне няма прэтэнзій да беларусаў, бо тады на акцыю выйшла нямала людзей. У мяне прэтэнзіі да беларускай улады, якая павінна была прыслухацца да майго крыку душы, але замест гэтага мяне адправілі за краты. За што? За тое, што я хацеў адкрыць вярхоўным чыноўнікам вочы на тое, якая ідзе небяспека з боку Расіі? Што заклікаў выконваць нормы Канстытуцыі? І на той момант я не бачыў іншай формы пратэсту, акрамя як вывесці людзей на вуліцу.

**– А сёння вы чым займаецеся?**

– Зарабляю на хлеб, папраўляю здароўе, бо знаходжанне ў турме нагадвае пра сябе да гэтага часу.

Таксама на грамадскіх пачатках удзельнічаю ў працы некалькіх клубаў па вывучэнні замежных моў, а таксама выкладаю замежным сябрам беларускую мову, каб яны ацанілі нашу беларускую культуру. Спраў у мяне хапае…

**Алесь СІВЫ.**

ВЫБАРЫ

# Надзея Гацак адзіная па акрузе, хто падаў дакументы на рэгістрацыю па-беларуску

Сябра аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» **Надзея Гацак** аказалася адзінай па Чкалаўскай выбарчай акрузе №96 у Мінску, хто падаў дакументы на рэгістрацыю сваёй ініцыятыўнай групы па-беларуску.

Такую выснову можна зрабіць на падставе таго, на якой мове апублікаваны рашэнні акруговай камісіі пра рэгістрацыю ініцыятыўных груп. З сямі зарэгістраваных прэтэндэнтаў у кандыдаты ў дэпутаты толькі ў дачыненні да адной актывісткі хрысціянска-дэмакратычнага руху рашэнне аб рэгістрацыі апублікавана на беларускай мове. Менавіта па-беларуску яна і падала свае дакументы.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Она нам не покажет!

Во время пресс-конференции 12 сентября Лидия Ермошина в очередной раз высказала «нетленную» мысль о том, почему во время подсчета голосов бюллетени не будут демонстрироваться наблюдателям:

– Когда наблюдатели стоят и наблюдают, значит, они и видят (процесс подсчета голосов), ничего другого не будет. Отдельная демонстрация каждого бюллетеня осуществляться не будет, для этого нужно вносить изменения в закон, – заявила глава ЦИК.

Эта красноречивая цитата хороша уже тем, что, произнося эти слова, Лидия Михайловна – с моей точки зрения – солгала дважды.

Первый раз – когда сказала, что стоящие и наблюдающие наблюдатели видят подсчет голосов. Это неправда – и вот почему. Госпожа Ермошина точно знает, как он осуществляется, этот самый подсчет. Сидят члены избирательной комиссии. Раскладывают бюллетени по стопочкам. Пишут что-то на клочках бумаги, которые передают председателю комиссии. А председатель комиссии оглашает итоговый результат. Что именно он (или она) там насчитал, вряд ли знают даже сами члены избиркома: каждый ведь осведомлен лишь о той цифре, которую он сам написал на своем клочке.

И второй раз – когда во всеуслышание объявила, что для изменения этой ситуации следует вносить изменения в закон. Не следует. В каком законе прописана норма о том, что члены избиркома обязаны не оглашать вслух результаты своих подсчетов? Нет такой нормы. И госпожа Ермошина об этом хорошо знает.

И в качестве косвенного свидетельства того, что она об этом осведомлена, выступает следующее заявление наиболее компетентной по части приготовления борщей белорусской домохозяйки, заявившей о существовании подготовленных в ее ведомстве методических указаний:

– Для участковых избирательных комиссий это отдельная брошюра. <…> Мы предусмотрели в том числе и схему расположения наблюдателей и членов избирательной комиссии, она даже графически изображена. Мы работаем над этим, все зависит от того, как это будет исполняться внизу, – отметила она.

Просто замечательно! А то Лидия Михайловна не знает, что с того места, куда сажают наблюдателей (и откуда им, наблюдателям этим, запрещено подниматься под страхом вывода из помещения милицией и тем более запрещено подходить к столу), слона увидеть можно – а вот убедиться в том, что результат подсчитан честно – дудки! Всё она великолепно знает! Просто наблюдатель сначала захочет увидеть, действительно ли бюллетени разложены по соответствующим стопкам – Иванова за Иванова, Сидорова за Сидорова, Халип за Халип. Потом он потребует пересчитать эти бюллетени с его участием. Потом – наблюдатели ведь те еще нахалы! – попросят копию протокола с подписью и печатью. И – что тогда? А если вдруг общий результат не сойдется с тем, который должен быть? Вдруг вместо Сидорова в Палату представителей Халип попадет? Как Лидия Михайловна сможет это пережить? Ложка с борщом в горле застрянет!

Она нам ничего не покажет. Все, что нужно, она уже показала. И много лет подряд успешно демонстрирует публично. Посему я не стал бы особо переживать. Ну нет у человека совести – так нет. Может быть, есть, но действует она выборочно, эта самая совесть. Не печальтесь, дорогие друзья. Будем надеяться на то, что члены избирательных комиссий не допустят до процедуры подсчета голосов не только оппозиционного наблюдателя, но даже и президента Республики Беларусь, если вдруг у такового возникнет желание лично поприсутствовать и убедиться. Потому что, как говорит Лидия Михайловна, законом это не предусмотрено, а нарушать закон – упаси боже! Как это возможно?! Никак! Пусть попробует – милиция его немедленно выведет за руки.

Но мне грустно, друзья мои. Выборы – это все-таки не варка борща, где хозяйка может пересолить, расстроившись из-за того, что кто-то посторонний вошел на кухню. Выборы – процесс публичный, и каждый гражданин Республики Беларусь является представителем единственного суверена нашей страны – народа. Запрещать ему то, что не запрещено законом, нельзя. А, повторюсь, где в законе написано, на каком расстоянии от комиссии должен находиться стул, на котором сидит наблюдатель? Где там сказано, что наблюдатель не имеет права потребовать пересчета голосов? Где сказано, что комиссия должна состоять из людей, немеющих при оглашении результатов подсчета бюллетеней в своей стопочке? Нигде.

Так может, это не наблюдатели нарушают закон, а госпожа Ермошина лжет?

Может быть. Всё может быть. В нашей стране вообще всё может быть.

КУЛУАРЫ

# Если Андрей Савиных не попадет в парламент, то возглавит одно из ключевых управлений МИД

*Вчера Александр Лукашенко, назначая новых послов Беларуси за рубежом, упомянул о желании уже бывшего посла Беларуси в Турции Андрея Савиных выдвинуть свою кандидатуру на предстоящих парламентских выборах.*

«Савиных решил поучаствовать в выборах. Конечно, это хорошо, подготовленный человек. Дипломаты должны быть в парламенте. Тем более организовывать надо будет дипломатическую работу. А если не изберут, мы увидим его где-то?» – поинтересовался глава государства у министра иностранных дел Владимира Макея.

Министр в свою очередь отметил, что для него решение Андрея Савиных идти на выборы в парламент было достаточно неожиданным: «Это его инициативное предложение. Я сказал: ради бога, ваша воля. Но я его видел на должности одного из ведущих главных управлений МИД».

«То есть он не пропадет?» – цитирует belta.by Александра Лукашенко.

«Нет. Видно, что он не потерял интерес, как у некоторых через определенное время пребывания в той или иной должности. Он постоянно интересуется, ищет что-то новое, новые подходы», – ответил Владимир Макей.

«Если изберут, это будет не хуже. В парламенте нужен человек, с которым МИД должен постоянно быть в контакте. У нас же там и комиссия есть профильная».




ЧУЛІ?

# «Пагоню» на дапусцілі ў метро

Вядомая продажам тавараў з нацыянальнай сімволікай крама symbal.by спрабавала размясціць рэкламны банер з выявай герба «Пагоня» ў метро. Паводле слоў адміністратара крамы Паўла Белавуса, гэта мелася быць выява прыгожай дзяўчыны ў цішотцы з «Пагоняй». Справа разглядалася ажно ў трох інстанцыях – кіраўніцтвам Метрапалітэна, у рэкламным і ідэалагічным упраўленнях Мінгарвыканкама. Урэшце «Пагоня» ў метро дапушчана не была.




Гэта ўжо не першы выпадак, калі ў symbal.by ўзнікаюць праблемы з размяшчэннем рэкламы. Год таму рэкламныя банеры з партрэтамі Уладзіміра Някляева і Юрыя Жыгамонта правіселі ўсяго некалькі гадзін, а потым іх знялі. Варта таксама нагадаць, што герб «Пагоня» ўнесены ў дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў і фармальна знаходзіцца пад аховай дзяржавы.

**Антон ЗАГОРСКІ.**

ТУСОВКА

# Еще один минчанин на посту главы Солигорского района

В Солигорске новый председатель райисполкома. Им стал **Андрей Леонидович Жайлович.** 12 сентября Александр Лукашенко дал согласие на его назначение руководителем Солигорского района.

Андрей Жайлович 1975 года рождения. До этого назначения занимал должность главы администрации Московского района Минска. Еще раньше был заместителем главы администрации Партизанского района столицы, где отвечал за вопросы развития строительства, жилищной политики и инвестиций.

Предыдущий председатель Солигорского райисполкома Олег Поскробко занял эту должность 10 августа 2017 года, получив назначение после поста заместителя министра жилищно-коммунального хозяйства. 17 июня 2019 года его задержали по подозрению в коррупции. В настоящее время ведется следствие, сам он под домашним арестом.

Предшественник Поскробко Александр Римашевский руководил районом 10 лет. Был задержан 30 мая 2017 года за получение взятки. Заключен под стражу. В декабре 2017 года приговорен судом к восьми годам лишения свободы с конфискацией имущества. В июне 2018 года его отпустили на свободу и назначили в Дрогичинский район Брестской области руководить предприятием.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

*«Народная Воля»*
*в Facebook*
*www.facebook.com/nv.online.info*
*в VKontakte*
*www.vk.com/nvonlineinfo*

НАТАТКІ

Віктар КАРАМАЗАЎ

# Акварэльныя падарожжы

*Акварэлі Фёдара Кісялёва даўно прывабліваюць маё вока і маю душу. Казаць гэта яму я не спяшаўся, ведаючы, што мастак ён сур'ёзны, яшчэ і правінцыял – мы з ім, дарэчы, з адной крычаўска-клімавіцкай, пры Сажы, правінцыі, – не любіць нахабных, у вочы, захапленняў – геніяльна, крута, файна, класіка, – намі, не толькі сённяшнімі, але і ўчорашнімі, яшчэ кіруе матчына ды бацькава сумленне. І ўсё ж на паперу, для сябе, я штосьці зліваў пасля сустрэч з яго мастацкімі работамі, з ім самім дзе па радочку, дзе па старонцы. І цяпер, дазнаўшыся, што ў Нацыянальным мастацкім музеі адкрылася выстаўка акварэляў Кісялёва, успомніў і пра свае старонкі: не будуць, мабыць, лішнімі ў газеце, якую чытаюць і мастакі, і аматары мастацтва.*

*Але спачатку вырашыў усё ж зайсці ў музей, на саму выстаўку. Гэтыя акварэлі Кісялёва бачыў і дагэтуль, але тут яны адкрылі мне штосьці новае, тое, што раней адчуваў як загадку і выказаць не мог, бо загадка заставалася загадкаю.*

*Што ж новае цяпер убачыў або адчуў у старых работах мастака? Вось тут якраз і месца для радкоў, якія я раней накідваў на паперу.*

…За мостам праз Лабжанку, рачулку вяртлява-гарэзлівую, лясную, Фёдар прытармазіў, звярнуў свой старэнькі «Жыгуль» на бакавіну шашы. Углядаючыся за лабавым шклом у яшчэ замглёна-ранішнюю і ўжо, вышэй, ласкава-цяплейшую ад схаванага за мгліцай сонейка далеч, куды бегла шаша, задумліва-нешматслоўны сябра прамовіў як напамін сабе і мне:

– Варшаўка. Выводзіла нас з вёсак у свет шырокі.

Мне ўспомніўся паэт, наш з ім зямляк:

– «Пакуль у целе чуецца душа, не веру я ў таемны свет другога яе жыцця. Таму дазволь, дарога, Варшаўскі шлях, Варшаўская шаша, звярнуцца да цябе, а не да бога…» – Падумаўшы, спытаўся: – Цябе куды Варшаўка вывела?

– Куды мая душа прасілася.

– У Віцебск да Шагала?

– Шагала там ужо не было, маэстра жыў у Парыжы, але пашанцавала на Фелікса Гумена, які даў мне як мастаку не менш, як мог бы даць Шагал.

– Быў год?..

– Дваццаты ад вайны.

– Ужо не галодны.

– Як ехаў, мама паклала мне ў заплечнік добры кавалак сала. Я запярэчыў, навошта гэтакі адназму, а яна зноў яго ў заплечнік: з добрым кавалкам, кажа, будзеш усім патрэбны. Вёска пасля смяялася: мамчын кавалак пасобіў?

З Варшаўкі з'ехалі на прасёлак, за Бакавам, вёскай, спыніліся на беразе Сажа. З машыны выйшлі – паводка квецені чаромхавай, аж слепіць. Што мастакам яшчэ шукаць? Я за эцюднік, з машыны вынес, а Фёдар скептычна ўсміхаецца:

– Ну паспрабуй, як ляжа гэтая краса ў твой эцюд. Адразу шукай кантраст.

У вочы кінулася вярба старая, зазелянелая, на кручы, пад ёю сіняя вада, але больш белая, срабрыстая ад навесі чаромхавай, як сіняя, і ўсё ж падумаў: чым не ратунак? Я да яе бліжэй, праз зарасць, плецiва лазы, а корч ці корань за нагу – скаціўся з кручы. Пакуль абтросся ды адшукаў мясцінку пад эцюднік, вярнуўся да машыны – няма ўжо Фёдара. Гукнуў – не адгукаецца. Падняўся на пагорак – бачу: высокі, даўганогі, ён ужо далёка ходзіць то ў адзін бок, то ў другі, нібы чаўнок, паміж старых на голым поплаве дубоў, як мерае той поплаў свімі сажнямі, а то спыняецца, у дубы ўглядаецца, узняўшы галаву, у буслянкі на дубах, у буслоў, якія дзе-нідзе ўжо гаспадараць, даюць хаткам паднову, трымае штосьці ў руках, пэўна блакнот з алоўкам, які заўсёды з кішэні выглядае, з-пад рукі, навіну замалёўвае?

Калі ўжо сонца села за далёкі лес, вярнуліся мы ў Чэрыкаў, уладкаваліся на ноч у зацішным дамочку на беразе Сажа, у пакоі на дваіх. За дзень набіўшы ногі, лёгка, без перагрузу, павячэраўшы, ужо думаючы пра дзень наступны, пакладіся ў свежыя пасцелі. Фёдар яшчэ пагартаў свой блакнот з замалёўкамі і, на сон настроіўшыся, сунуў пад падушку, пад галаву, а мне спаць не хацелася, не пабачыўшы ў тым блакноце, што ён знайшоў для сваіх будучых афортаў у дубах, чым яны вопытнага мастака прывабілі, вадзілі вакол сябе ўвесь дзень. І гэта яму сказаў. Ён выклаў блакнот з-пад галавы на стол ды ўскінуў на голаў коўдру, даўшы зразумець, каб болей яго не трывожыў.

***

Дубы, тыя або не тыя, першымі кідаліся ў вочы амаль на кожнай старонцы блакнота, і ўсе мелі не толькі арыгінальны малюнак, але і свой арыгінальны характар, стваралі настрой і вобраз пейзажнага матыву, мелі над ім духоўную ўладу, што і здзіўляла, і бянтэжыла. Бянтэжыла, бо здавалася неверагодным: дрэва нібыта мела ўладу самога мастака, але здзіўляла, што я ў гэта верыў, прыгадваючы іншыя дубы з яго акварэлей.

Было пытанне: з якіх крыніц жыцця або мастацтва гэты мастацкі вобраз – стары магутны дуб, – адкуль гэтакі непахісны давер у мастака да вобраза як да самога сябе, да свае душы?

З нечаканым пытаннем я і заснуў, схаваўшы блакнот, нібыта свой уласны, пад сваю падушку. З гэтым пытаннем і прачнуўся.

Раніцай мы зноў выехалі на Варшаўку, пагналі свайго каня на Слаўгарад, але з Варшаўкі звярнулі раней, як надоечы, не даехаўшы да масточка цераз Лабжанку, у Мірагошчы выехалі да Сажа і там успомнілі: Фёдар – як ужо неаднойчы тут замалёўваў і пісаў дубы ды вербы, я – як з Міхасём Стральцовым тут гасцявалі ў майго старога сябра Ягора Лісікава, першага на Сажы рыбака і «акуня» (стары на слова калючы быў), марылі прыдбаць тут ціхі дамочак, пра які не ведалі б ні наш Саюз пісьменнікаў, ні нашы жонкі. Праз суседнюю Горку спусціліся да месца, дзе некалі стаяў палац князя Абаленскага, пагазавалі далей берагам Сажа.

– У Журавель? – Фёдар успомніў блізкую вёску. – Але яе Чарнобыль змыў...

Замоўклі. Замоўк і ў «Жыгуля» матор.

Я ўспомніў трагічныя афорты Фёдара «Была тут вёска Журавель», «Бераг вёскі Журавель» і, як неабходны для душы бальзам, паэму «Жураўліны бераг» Аляксея Пысіна, які любіў бываць там яшчэ да той бяды: *«У бераг білі хваляў пераліўы, курлыкала скразная вышыня…»* Пра вёску, якая да сябе паклікала, задумаўся і Фёдар:





– Апошні раз я быў там з сябрам, мастаком. Прыехалі, а што пісаць, што маляваць? Ні хат ранейшых, ні людзей. Старая з лесу выйшла з вядром, за ёй – карова. Карову падаіла – з'явіліся бычок і цяля. Галовы ў вядро з малаком – старая на іх глядзіць, смяецца, кажа, што гэта не кароўкіны дзеці, гэта алянушкі: была вальера ў Лімені, бяда растрэсла, якія алені ўцалелі – бадзяюцца па лесе, здружыліся з жывёлай хатняй, прыйдзеш карову падаіць – яны ўжо чуюць, бягуць на малако. Бяда ўсіх прымірыла, нават ваўкі ўжо нікога не палохаюць.

Падышлі дзядзькі з вудамі. Пачуўшы пра блізкі Журавель, ехаць туды не параілі, бо ўсе лясныя дарогі пазарасталі – не праехаць. Фёдар спытаўся пра журавельскі дуб, зарадаваўся, што стаіць, як і стаяў, усыпаны бусламі, уначы аж свеціцца – відаць далёка. Дзядзькі панеслі свае вуды далей на плячах – тады я ў яго спытаўся:

– А што табе дубы? Яны цябе купілі?

Ён усміхнуўся, як задаволены маім пытаннем.

– Трывалая фактурная натура.

– У прыродзе ўсё трывалае, фактурнае.

Настрою спрачацца ў майго сябра не было, але пазней, калі завечарэла, на беразе цяпельца развялі, ён успомніў сваю вёску, блізкую, за Сажом, Іванаву Слабаду, там, каля роднай хаты, свой наймілейшы дуб…

***

Пачаў Фёдар з таго, як разам са старэйшым братам Мікалаем, таксама выдатным, цяпер – у Смаленску, мастаком, ішоў ад Варшаўкі лесамполем у вёску на юбілей да бацькі, напрамак вызначаючы, каб не заблудзіць, па знаёмых дубах. Да вёскі заставалася, можа, вярста, як моцна разбалелася нага ў брата, старая рана, хоць ты бяры на плечы. Пасадзіў Фёдар яго на пень, сам пабег у вёску, каб узяць каня.

– Я ў хату, а там ужо ўсе астатнія браты – Валодзя, Дзіма, Віктар. Пачуўшы, што з Мікалаем, Валодзя апрануўся ва ўсё бацькава – старую куфайку, аблезлую зімовую шапку, валёнкі, хоць ужо вясна, ані снегу-лёду, – схапіў бацькаў кастыль, гуртам да хворага. Валодзя да Мікалая першы, кастыль адкінуў, брата ўзяў на рукі, той разгубіўся: адкуль у старога бацькі, якому семдзесят пяць, гэтакая рухавасць, сіла? У вёску бегма, ужо і Мікалай бяжыць, бо сорамна стагнаць перад кульгавым бацькам, які бяжыць наперадзе ўсіх, кастыль у лесе кінуўшы. У хату першым, а там яму насустрач бацька. Два бацькі – абодва без кастылёў? Ну, быў канцэрт! Селі за стол: гарэлка з рогатам – першы юбілейны дзень.

– І дзень другі быў, калі быў першы? – цікава ўжо і мне.

– Не менш вясёлы, – смяецца Фёдар. – Сабраліся ўсе бацькавы сябры, уся радня: давай, Стахван, канцэрт. Бацька – за Міколу, вывеў да дуба, бо ў хаце для ўсіх месца мала: чытай сваю паэму. А Мікалай не толькі мастак, але і паэт, пачаў чытаць сваю паэму пра вёску, а там уся радня, усе бацькавы сябры, усе мы, яго сыны, дачка, унукі, браты і сёстры, дзяды і прадзеды, якія ёсць, без падмалёвак, натура голая. Брат дачытаў паэму – народ аж стогне. Слова – бацьку. А як з тым словам, калі ў кожнага ад рогату пупы развязаліся? Не, дакрычаўся: «Канцэрт прадоўжыцца пасля антракту! Будзе спяваць капэла! Галоўны…» Замоўк – сябе назваць не асмеліўся. Але адразу пачаў ствараць капэлу. Паставіў у яе ўсіх сваякоў, сяброў і тых, хто вельмі хацеў сябе паказаць. Басы да басоў, альты да альтоў, уваткнуў і мяне. Я кажу: не маю твайго, тата, таленту, не спявак. А ён мне: ты мастак, ведаеш, што такое тон, мычы, як бык, – трымай тон. Падвярнулася цётка Кланя – і яе ў капэлу. Яна сарамяжліва адмахваецца, бо заіка, а ў яго свая мерачка: заікайся – адбівай рытмы. Капэла ці не капэла – спявалі хто хацеў. Вясковае. Хто што ўспомніць – пачынае, а песню падхапіць вёска заўсёды згодная. І пра ночку цёмную, і пра салдаціка, долю гаротную, і пра месячык ясны. Да ночы спявалі, а як раніца – зноў усе да нашага дуба. Бацька бачыць, што трэба новая песня: абвясціў лазню. Доўга ён яе мудрагеліў. Спачатку выкапаў сажалку, заліў вадою, потым на беразе сажалкі склаў пячурку – не пячурку, ямку пад корч смаловы, зверху – камяні. І зрубчык, страху. Кажа: гэтак прадзеды дзядоў парыліся, па-чорнаму. Ну, хто першы, смелы? А хто ён у вёсцы, як не калгасны старшыня? Прыйшоў пад гальштукам: не, кажа, халодная ў цябе, Стахван, лазня атрымалася, не буду распранацца. А бацька яму: вось карац, вось вада, вось камень гарачы. Той як плескануў карац вады на камень, пара – агонь, куды дзецца, як няма коміна, дзіркі ў неба? У столь свістанула, ад столі – у дзверы, а ў дзвярах, на ўсю шырыню, старшыня: вынесла і дзверы ў сажалку, і старшыню на дзвярах. З вады выцягнулі – распрануўся: хто вінаваты? Няма, кажа, вінаватых, акрамя прадзедаў дзядоў, але будзе, калі хто вынесе адсюль на вёску, як старшыня парыўся па-дзедаўску, – прышыю падрыў аўтарытэту ўлады! – Смяецца Фёдар. – Вось што такое мае дубы і мае акварэлькі.

***

Прыйшоў з музея, з выстаўкі Фёдара Кісялёва. Гартаю таўсценькі сшытак, які ён даў мне. Тут яго натурныя малюнкі прыроды з Дняпром, Сажом, дубамі, з вёскамі, Іванавай Слабадой, Варшаўкай, тут і яго, можна сказаць, эскізы думкаю і словам, падобныя на чарнавыя накіды маленькіх навел пра тое, што дорага сэрцу мастака: «Вясна на малой радзіме», «Гукі восені», «Гумны», «Была вёска Журавель», «Чапля», «Лазенка», «Хор», «Цітаў хутар». Цікава? Так. Учытваюся, думаю, адчуваю. Фарбаў не хапала, каб выліцца ў сваіх пачуццях на ўсю глыбіню, да дна душы? Гэтак было з Бялыніцкім-Бірулем, Мікеланджэла, Ван Гогам, Каровіным. Бывае гэтак і са мной у літаратуры – слова мала: хапаюся за фарбы. Гэта не залежыць ад сілы таленту, рангу мастака, тут – воля пачуццяў, іх пошук выйсця з духоўнага палону.

А вось і зусім штосьці ў сшытку новае, не малюнак і не літаратурная навела.

«Хаджу, шукаю сваю родную вёску і не знаходжу. Дзе ты, мая Іванава Слабада? Яшчэ два гады назад я тут бываў, цябе знаходзіў, тады шукаў і знаходзіў дарагія мне фотаздымкі, старэнькую іконку, абразок з рук мамы, бацькі забраў адсюль з сабою як найдаражэйшыя рэліквіі, а што тут цяпер? Ні роднага дома, ні майго дуба, ні нават сілуэта вёскі! Як далей жыць без вобраза ў вачах свае малой Радзімы?!»

Ніжэй пад гэтымі радкамі разгубы-крыку два малюнкі роднай вёскі. Па памяці?..

***

9.09.2019.

Яшчэ раз прыйшоў у музей на выстаўку акварэляў Фёдара Кісялёва. Мне цяжка адвесці вочы амаль ад кожнае яго работы. Чым наймацней бярэ ў палон мяне, мае душу і сэрца? Святлом. Гадоў ужо трыццаць з гакам я радуюся сустрэчам з новымі работамі мастака, сачу за яго экспазіцыямі, але яшчэ ніколі гэтак не быў уражаны ягоным акварэльным святлом, як сёння. Магчыма, што тут удалае музейнае асвятленне? Але адчуваю найперш тое, што ў апошнія гады ў мастака абвастрылася духоўная патрэба святла натуры, пейзажных кампазіцый, тону, адпаведнага яго тонкаму каларыстычнаму густу, далейшаму пошуку акварэльных алітэрацый, меладычных сугуччаў, пейзажнай чысціні, празрыстасці, музыкі.

***

10.09.2019.

Світае. Апранаюся, выходжу на бераг возера.

Пейзаж даўно знаёмы, але адно ў думках. Сёння бачу і адчуваю яго надзіва новым, якога раней не бачыў. Узыходзіць сонейка, гэтак атуленае празрыстай ранішняй смугой, што святло ад яго не дае ў пейзажы, якім любуюся, амаль ніякіх, нават і самых празрыстых, ценяў, не высвечвае дробных мас і форм, вельмі мякка вымалёўвае толькі буйныя масы рухомага, ад паверхні возера ў неба, волкага туману, буйное робіць яшчэ буйнейшым, нават мануметальным, велічным. Гэтакія матывы любіць Фёдар.

Вярнуўшыся з возера ў свой пакой, бяру ў рукі альбом з рэпрадукцыямі яго акварэляў і адразу адкрываю на старонцы з ранішнім на пачатку восені пейзажам: туман, з яго ледзь выглядаюць яшчэ заспаныя вясковыя хаты, а паміж іх і над імі ўзвышаецца стары кашлаты дуб, глядзіцца велічна, як уладар жыцця вакол сябе, усім сваім абліччам адбіваючыся ці то ў тумане, яго празрыстай паводцы, ці то ў возеры.

У Чэрыкаве, калі развітваліся, бо я там заставаўся яшчэ на колькі дзён, а Фёдар ад'язджаў у Магілёў, ён мне задумліва сказаў, як штосьці невыпадковае:

– Кажуць, што жыццё на зямлі не вечнае. А я думаю, што калі гэта так, то адбудзецца, што застануцца тут нашы дубы, адны яны, і жыццё адродзіцца ад іх, яны вечныя.

Тую карціну з магутным дубам над вёсачкаю ў восеньскім тумане мастак назваў, як загадала сэрца: «Мая маленькая Радзіма».

*АД РЭДАКЦЫІ*

Калі матэрыял Віктара Карамазава быў ужо ў рэдакцыі, у гэты ж дзень стала вядома, што мастак Фёдар Кісялёў памёр. Разам з усімі прыхільнікамі яго творчасці выказваем шчырае спачуванне сям'і мастака.

ВІНШУЕМ!

## Прэмія Наталлі Арсенневай – у Марыі Мартысевіч

У Мінску прайшла цырымонія ўручэння прэміі імя Наталлі Арсенневай. Яе сёлета атрымала паэтка Марыя Мартысевіч – за кнігу вершаў «Сарматыя». На прэмію прэтэндавалі 27 аўтараў, у кароткім спісе кандыдатаў фігуравалі, апрача будучай лаўрэаткі, Уладзімір Арлоў з кнігай «Паручнік Пятровіч і прапаршчык Здань» і Надзея Артымовіч са зборнікам «Краявід з невідочнай памылкай».

Прэмія Наталлі Арсенневай у літаратурным асяродку лічыцца адной з самых прэстыжных, у гэтым годзе яна склала 4000 рублёў. Першым лаўрэатам пазалетась стаў Уладзімір Някляеў, а летась яе атрымаў Алесь Разанаў. Такім чынам Марыя Мартысевіч далучылася да годнай кампаніі.

**Антон ЗАГОРСКІ.**

НА СТАРТ!

## 40 тысяч бегунов и 60 тысяч долларов

Минский полумарафон побьет все рекорды и станет самым масштабным забегом в истории Беларуси. На старт в центре города 15 сентября выйдет более 40 тысяч человек из более чем 50 стран мира.

До начала старта им нужно будет забрать пакеты участников, содержимое которых зависит от дистанции. Самым богатым оказался пакет для полумарафонцев – тех, кто побежит 21,1 километра. В него вошли майка, носки и антисептик. Всем участникам также выдают по бутылке воды, пачке попкорна и батончику-мюсли. Среди обязательных предметов – стартовый номер участника и электронный чип для регистрации результатов. Девушкам также выдадут разноцветные резинки для волос.

На финише всех участников ожидают медали.

Минский полумарафон полностью исчерпал лимит участников. Большая часть участников записалась на массовый забег в 5,5 километра. Хотя самой звездной будет колонна бегунов на дистанции в 21,1 километра. Большой интерес в этом году привлек и маршрут в 10,55 километра.

Как и раньше, среди фаворитов – африканские атлеты. А вот самая быстрая белоруска **Ольга Мазуренок** вынуждена пропустить забег, чтобы лучше подготовиться к чемпионату мира по легкой атлетике в Дохе.

Самые быстрые бегуны разделят рекордные 60 тысяч долларов.

*«Чтобы повысить статус забега, мы увеличили призовой фонд на 20 процентов. Кроме того, впервые победитель сможет получить суперприз в 11 тысяч долларов, если установит исторический рекорд на дистанции 21,1 километра. Это привлечет больший интерес к забегу среди участников и зрителей как в Беларуси, так и в других странах мира»,* – убеждены в «Банке Дабрабыт», который выступает официальным партнером Минского полумарафона и на средства которого сформирован призовой фонд.

Основной забег на 21,1 км пройдет по проспекту Победителей. После участка от Дворца спорта до Верхнего города бегуны преодолеют часть проспекта Независимости, повернут на улицу Сторожевскую и вновь вернутся на проспект Победителей. На время забега движение в центре столицы будет перекрыто.

**Алина ВЕТРОВА.**

ПРИГЛАШЕНИЕ

# Лаврецкий расскажет про кино

*Национальный центр современных искусств запускает новый проект для любителей, знатоков и ценителей кино. Известный белорусский режиссер и кинокритик Никита Лаврецкий прочитает цикл лекций, в которых на наглядном визуальном материале расскажет, чем жил кинематограф последние десять лет.*




Никита Лаврецкий – ведущий научный сотрудник Национального центра современных искусств, магистр киноведения и лауреат XXII Международного кинофестиваля «Лістапад-2015» в национальном конкурсе (лучший игровой фильм), обладатель первого места в номинации «Лепшы беларускі фільм» за кинокартину «День рождения в Минске». Его тексты о кино и сериалах публикуются в таких изданиях, как «Искусство кино» и «The Village».

Лекции пройдут по средам в Музее современного искусства.

Цена билета – 6 рублей, для студентов, школьников и пенсионеров – 3 рубля.

Для самых преданных ценителей киноискусства действует абонемент на 12 лекций – 25 рублей.

ФЕСТЫВАЛЬ

# Хочаце ад душы павесяліцца?

Калі так, то адпраўляйцеся 14 верасня ў палескія Калінкавічы. Там пройдзе Рэспубліканскі фестываль народнага гумару «Аўцюкі», які некалі з'явіўся на свет з падачы няўрымслівага пісьменніка Уладзіміра Ліпскага.

Весяліць публіку будуць з ранку да вечара акцёры тэатраў мініяцюр, імправізатары анекдотаў, жартаў, частушачныя пяюхі, танцоры… А ці ж можа фестываль гумару абысціся без сталічнага «Хрыстафора»? Яго артысты ўжо, можна сказаць, у дарозе. Збірайцеся і вы, шаноўныя чытачы!

**Рыгор ВЯЛІКАСЕЛЕЦ.**



Народная Воля
http://www.nv-online.info
13 ВЕРАСНЯ 2019 г.

СОЛИДАРНОСТЬ

## Metallica пожертвовала 250 тысяч евро на строительство больницы в Румынии

*Американская рок-группа Metallica во время визита в Румынию пожертвовала 250 тысяч евро на строительство первой в стране онкологической больницы для детей, сообщила благотворительная организация Daruieste Viata.*

Заявление было сделано в день концерта Metallica в Бухаресте.

Строительство первой детской онкологической больницы в Румынии началось в середине 2018 года в Бухаресте, организаторы надеются закончить проект в следующем году. Строительные работы полностью оплачиваются за счет пожертвований.

ЗА ОКЕАНОМ

## В США запретят ароматические добавки для электронных сигарет



Минздрав США объявил о готовящемся запрете к продаже в стране любых ароматических наполнителей для электронных сигарет, кроме тех, что имеют запах табака.

Министр здравоохранения США Алекс Азар сообщил о том, что Управление по надзору за качеством пищевых продуктов и медикаментов США разрабатывает директиву о запрете любых ароматических жидкостей для электронных сигарет, кроме имеющих запах табака.

Ужесточить стандарты производства наполнителей для электронных сигарет правительство подвиг ряд смертей, связанных, как полагают медики, с вейпингом – вдыханием водяного пара с различными ароматическими добавками. По официальным данным, всего в США на сегодня зафиксировано шесть смертей и более 450 случаев заболеваний в 33 штатах, возможно, связанных с серьезным повреждением легких, вызванным курением электронных сигарет.

Президент США Дональд Трамп назвал использование электронных сигарет «большой проблемой». Ранее его супруга Мелания Трамп выразила глубокую озабоченность увеличивающейся популярностью электронных сигарет среди детей и назвала текущую ситуацию «разрастающейся эпидемией». «Нам необходимо сделать все, что в наших силах, чтобы защитить общество от болезни и смерти, связанных с потреблением табака, и не допустить, чтобы электронные сигареты стали дополнением к потреблению табака целым поколением молодежи», – написала первая леди США в Twitter 9 сентября.

ПОЛИТИКА

## Премьер-министр Израиля Биньямин Нетаньяху назвал главную угрозу для России

Биньямин Нетаньяху считает, что главная опасность для будущего России – радикальный ислам. Об этом он рассказал в интервью изданию РБК принадлежащему Григорию Березкину.

Политик отметил, что наибольшее зло несет в себе шиитский радикальный ислам из Ирана, который стремится получить ядерное оружие и подчинить себе Ближний Восток.

«В конечном итоге он направит свою идеологию и оружие не только на Израиль и Запад, но и на Россию тоже. Потому что он против нашей общей культуры, и он хочет править миром», – заявил Нетаньяху. Премьер считает, что такое «иррациональное стремление к господству угрожает всему человечеству».

Политик оценил отношения России и Ирана и отметил, что позиции этих двух стран иногда могут совпадать, но не всегда и не полностью. Нетаньяху подчеркнул, что высоко ценит координацию с президентом России Владимиром Путиным для противодействия попыткам Ирана завладеть ядерным оружием и подчинить себе Ближний Восток.

ПРОТЕСТ

## В Барселоне сотни тысяч человек вышли на митинг за независимость Каталонии



В Барселоне сотни тысяч человек, поддерживающих отделение Каталонии от Испании, собрались на митинг, сообщает Ассошиэйтед Пресс. На многих участниках митинга были футболки с логотипами в поддержку независимости Каталонии, некоторые из них несли флаги с призывами к независимости.

По данным полиции Барселоны, около 600 тысяч человек приняли участие в мероприятии.

ЭКОЛОГИЯ

## Радиоактивную воду с АЭС «Фукусима» планируют слить в океан

*Пока воду хранят в огромных резервуарах, место в которых закончится к 2022 году.*




Министр окружающей среды Японии сообщил, что загрязненную воду с АЭС «Фукусима», возможно, придется слить в океан, так как к 2022 году ее негде будет хранить. Более миллиона тонн воды, используемой для охлаждения реакторов аварийной станции, сейчас содержатся в специальных резервуарах.

Против сброса воды с АЭС в океан выступают рыбаки, хотя, по словам ученых, она не представляет большой угрозы. Помимо рыбаков против выступает и Южная Корея, правительство которой дало понять, что сброс радиоактивной воды в океан может повредить и без того сложным отношениям между странами.

Шестиреакторная АЭС «Фукусима-1» была частично разрушена в результате мощного землетрясения, произошедшего 11 марта 2011 года, и последовавшего за ним цунами. Тогда взрывы, вызванные сбоем в системе охлаждения, повредили четыре из шести реакторов. На станции периодически происходят утечки загрязненной радиацией воды.

Согласно плану правительства Японии, ликвидация последствий аварии будет продолжаться десятки лет. В течение последних восьми лет около 200 тонн радиоактивной воды выкачивалось из поврежденных зданий реактора каждый день.

СОСЕДИ

## В Польше членов семей высоких госчиновников обяжут раскрывать свои доходы

Сейм Польши принял законопроект о раскрытии информации об имуществе членов семей важнейших государственных чиновников.

Согласно новым правилам, которые должны еще одобрить Сенат и президент, премьер-министр, министры и депутаты будут обязаны раскрывать данные о личном имуществе своих мужей или жен и детей.

Закон должен вступить в силу через 14 дней со дня опубликования в Официальном вестнике, на практике же начнет действовать после выборов.

За законопроект проголосовали 258 депутатов, 22 были против, а 139 депутатов, в основном оппозиционных, воздержались.

Вопрос раскрытия информации о собственности семей политиков вышел на повестку дня после того, как Gazeta Wyborcza написала, что нынешний премьер Матеуш Моравецкий вместе с женой в 2002 году купили у одного из приходов во Вроцлаве 15 гектаров земли за 700 тысяч злотых. При этом рыночная цена участка к тому времени была уже значительно выше.

По данным издания, Моравецкий не должен был вписывать участок в имущественную декларацию, поскольку в 2013 году сделал частичный раздел имущества со своей женой Ивоной Моравецкой.

В ФОКУСЕ

## В Нидерландах завершился знаковый суд по делу об эвтаназии

Нидерландского врача оправдали в рамках судебного разбирательства, которое, как надеялись врачи и правоохранители, поможет выяснить, как закон об эвтаназии 2002 года может применяться к людям с тяжелой деменцией.

Три года назад врач провела эвтаназию 74-летней женщине. Пациентке ввели смертельную дозу лекарств, несмотря на некоторые свидетельства, что она могла изменить свое мнение, после того как письменно заявила, что хочет эвтаназию. Врача обвинили в том, что она не действовала правильно, поскольку, по утверждениям прокуроров, она приложила недостаточно усилий, чтобы выяснить, хочет ли все-таки пациентка умереть.

Гаагский окружной суд постановил, что врач выполнила все критерии осуществления эвтаназии, согласно голландскому законодательству, и что в редких случаях эвтаназии, которые осуществлялись в отношении пациентов с тяжелой деменцией, которые ранее написали письменный запрос на эвтаназию, врач «не был обязан проверить текущее желание умереть».

Пресс-секретарь прокуратуры Санне ван дер Харг заявила, что прокуратура тщательно изучит решение суда, прежде чем решить, нужно ли обжаловать его.

СЛЫШАЛИ?

## В новом составе Еврокомиссии планируется равное количество мужчин и женщин



Согласно планам избранной председателем Европейской комиссии (ЕК) Урсулы фон дер Ляйен, в возглавляемом ею органе будет невиданное доселе количество женщин.

О будущем составе Еврокомиссии в Брюсселе сообщили в понедельник 9 сентября, пишет Deutsche Welle.

Ожидается, что кроме самой фон дер Ляйен Еврокомиссия будет насчитывать по предварительным данным еще 12 женщин. Планируется, что еще 14 мест в Европейской комиссии останутся за мужчинами.

Такое перераспределение мест по гендерному признаку – значительный шаг вперед по сравнению с предыдущим составом ЕК, куда входят девять женщин и 19 мужчин.

В то же время из-за запланированного на 31 октября выхода Великобритании из состава ЕС новая Еврокомиссия будет насчитывать 27 мест, а не 28, как нынешняя.

Председатель Еврокомиссии фон дер Ляйен должна подписать соответствующие распоряжения относительно сферы ответственности будущих еврокомиссаров и еврокомиссарок. Затем список из кандидаток и кандидатов на должности в будущей Еврокомиссии еще должны утвердить страны-члены ЕС и европарламентарии, напоминает агентство новостей AFP.

Новая Еврокомиссия приступит к работе 1 ноября. В ней традиционно каждая страна-член представлена одним еврокомиссаром.

СТИЛЬ ЖИЗНИ

# Как работают немцы сейчас и какие условия труда хотят иметь в будущем

Что думают офисные сотрудники в Германии о гибком графике, работе на дому, плоских иерархиях и корпоративных ценностях? Опрос выявил представления о мире труда в цифровую эпоху.

Современный немец хотел бы самостоятельно распределять свое рабочее время, требует изменения законов с целью расширения возможностей для Homeoffice – работы на дому, считает, что его работодатель должен исповедовать те же ценности, что и он сам, выступает за равную оплату труда мужчин и женщин и убежден, что смешанные коллективы более эффективны, чем однополые.

### Гибкий график и удаленная работа очень популярны

Таковы лишь некоторые результаты телефонного опроса, проведенного среди работающих жителей Германии в возрасте от 16 до 65 лет немецким объединением предприятий цифровой экономики Bitkom. Его интересовал широкий круг тем, но во главе угла стоял вопрос о том, в какой мере цифровизация уже сказалась на трудовых отношениях немцев и как они представляют себе мир труда в цифровую эпоху. Большинство участников этого репрезентативного опроса работает в офисах, что соответствует структуре занятости в стране.

«Цифровые технологии дают возможность мобильно и самостоятельно работать без привязки к определенному времени и месту», – подчеркнул, представляя 11 сентября это социологическое исследование, президент Bitkom Ахим Берг. Судя по опросу, абсолютное большинство немцев хотело бы воспользоваться такой возможностью.

Так, 96% респондентов высказались за гибкий график, при этом 58% выступают за то, чтобы на законодательном уровне устанавливалась максимальная продолжительность не рабочего дня, а рабочей недели. 53% хотели бы трудиться на доверии, без строгой фиксации отработанных часов. При этом 77% отметили, что на их предприятиях в данный момент действуют различные методы обязательного учета рабочего времени, 13% сообщили, что добровольно фиксируют отработанные часы.

63% опрошенных предлагают изменить трудовое законодательство, с тем чтобы облегчить работу на дому при помощи интернета. А 45%, почти половина, вообще предлагают узаконить право каждого работника на Homeoffice, хотя далеко не во всех профессиях удаленная работа вообще возможна. Однако найти уединение можно и в офисе. Почти каждый третий респондент (31%) сообщил, что у него на фирме есть специальное помещение, где можно поработать в тишине.

### Цифровизация порождает запрос на плоские иерархии

На ключевой для Bitkom вопрос «Рассматриваете ли вы цифровизацию на своем рабочем месте как шанс или как угрозу?» ровно две трети опрошенных (66%) ответили: как шанс. В возрастной группе от 16 до 29 лет таковых 70%. Из ответа на другой вопрос стало ясно: лишь 8% считают, что в 2030 году их рабочего места уже не будет.

Абсолютное большинство респондентов (91%) заявили, что цифровые технологии в виде компьютеров, смартфонов или автоматизированных станков и машин уже сегодня играют большую роль в их каждодневной трудовой деятельности. В 2017 году так ответили 80%, что говорит о высокой динамике внедрения этих технологий и их уже практически повсеместном распространении в Германии. 78% отметили, что без них просто не смогли бы выполнять свою работу.

Внедрение этих технологий не только повышает производительность труда (с этим согласны 62%), но и способствует изменению представлений немцев о том, как следует организовывать трудовой процесс. Под высказыванием «Я хотел бы плоских иерархий» подписались 93% опрошенных. Иными словами, оснащенные цифровой техникой работники не видят смысла в жестких управленческих вертикалях с большим количеством начальников на разных уровнях.

### Равноправие полов и социальная ответственность работодателей

Целый ряд вопросов в исследовании Bitkom не был непосредственно связан с цифровизацией, но позволил выяснить мнение немцев о современном мире труда и перспективах его развития.

Так, практически все участники опроса (97%) считают, что мужчинам и женщинам следует платить равные зарплаты за равный труд. При этом 87% отметили, что их предприятие серьезно относится к теме равноправия полов. 79% указали, что в смешанных коллективах, где вместе работают мужчины и женщины, результаты труда лучше, чем в однополых. На вопрос, имеются ли на вашем предприятии женщины на руководящих должностях, утвердительно ответили 57%.

82% опрошенных заявили о своем желании лучше совмещать работу и семью. Глава Bitkom Ахим Берг прокомментировал это так: «Для многих работающих в наши дни в центре внимания уже не только карьера, они хотят, чтобы профессиональный успех оставлял им время для семьи и сочетался с личной жизнью».

Одновременно работающие немцы предъявляют весьма высокие моральные требования к тем фирмам и организациям, в которых они трудятся. 96% процентов согласились с утверждением «Мой работодатель должен отстаивать ценности, с которыми я могу себя идентифицировать». 92% согласились с тем, что работодатель должен нести социальную ответственность.

НЕСТАНДАРТ

## В Великобритании старый самолет стал гостиницей

*Самолет авиакомпании Etihad Airways переоборудовали в четырехместный гостиничный номер.*

Тоби Рис Дэвис, владелец кемпинга в Южном Уэльсе, выкупил старый самолет Airbus A319 за 45 тысяч фунтов стерлингов (более 50 тысяч евро) и сделал из него комфортный номер. В самолете сохранена бортовая кухня, есть душ и работают запасные выходы.

Для удобной транспортировки самолет разделили на две части. Впоследствии хвост переоборудовали в номер с четырьмя кроватями, а из передней части сделали лоджию. Переночевать в необычной гостинице можно за 200 евро.

A319 изначально принадлежал Air Canada и был арендован Air Malta. В 2003 году его купила авиакомпания Etihad. В 2018-м борт вывели из эксплуатации.

Кроме самолета в кемпинге Дэвиса можно остановиться в летающей тарелке, диско-куполе и в доме Pac-Man.



